**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 38 (806) 17 верасня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



ISSN 2077-8023








**Рамонт вуліцы Шпітальнай.** *Фота Ул. Скрабатуна*



## Самая прыгожая набярэжная ў краіне – у Глыбокім

**Добраўпарадкаванне набярэжнай возера Кагальнае ў Глыбокім прызналі лепшым у краіне.**

На возеры Кагальнае ўладкаваны зручныя і бяспечныя падыходы да вады, абсталяваны пад'езды і стаянкі для аўтамабіляў. Тут ёсць пункты харчавання, праката пляжнага і спартовага інвентара, распранальні, лодачная станцыя. Бераг упрыгожваюць ратонды, прыгожыя ліхтары, лаўкі і дарожкі, помнік «Дзеду-глыбачаніну».

Добраўпарадкаваннем набярэжнай займалася ЖКГ Глыбоцкага раёна. Прадпрыемства атрымае грашовую прэмію і дыплом.

TUT.BY

## На 11 верасня разгледжана пытанне аб прымяненні амністыі ў дачыненні да 6.897 асуджаных, якія ўтрымліваюцца ў месцах пазбаўлення волі

**Паводле звестак дэпартамента выканання пакаранняў МУС Беларусі, на 11 верасня разгледжана пытанне аб прымяненні закона аб амністыі ў дачыненні да 6.897 асуджаных, якія ўтрымліваюцца ў месцах пазбаўлення волі (усяго пад амністыю трапляюць 7.967 чалавек).**

Начальнікамі папраўчых устаноў закрытага тыпу вынесены пастановы аб вызваленні ад далейшага адбывання пакарання 1.594 асуджаных, з якіх 25 — непаўналетнія. Прынятае рашэнне аб скарачэнні тэрміну пакарання на год у дачыненні да 1.754 чалавек. Адмоўлена ў прымяненні амністыі 3.549 пазбаўленым волі. Прычыны: наяўнасць іскаў, злосныя парушэнні парадку адбывання пакарання.

Падчас амністыі тымі, хто адбывае пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, кампенсаваны ўрон больш як на 5,2 млрд. рублёў.

*В. Будкевіч, БелаПАН.*





Віцебскі раён

# Дайшла бяда да гігантаў

■ Станіслаў Раманчук.

**Існуючая мадэль сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі апошнім часам пачала перажываць сур'ёзныя праблемы.**

Нават перад прэзідэнцкімі выбарамі гаспадарчыя суды сталі прымаць рашэнні аб банкротстве і ліквідацыі ўжо і буйных прадпрыемстваў. Такі горкі лёс напаткаў днямі і адну са старэйшых у абласным цэнтры панчошна-трыкатажную фабрыку "КІМ". Яна была заснавана яшчэ ў 1931 годзе і доўгі час была адным з сімвалаў савецкай, а потым і беларускай лёгкай прамысловасці. У Віцебску гэта фабрыка працавала на вялізнай тэрыторыі плошчай 11 гектараў, мела разгалінаваную сацыяльную сферу. Аднак як высветлілася на судовым пасяджэнні, "КІМ" стаў поўным банкрутам яшчэ некалькі гадоў назад. Спробы ўрада і мясцовых улад адвесці калектыў ад гібелі былі марнымі, бо толькі раслі даўгі перад банкамі, па падатках і зборах і перад іншымі крэдыторамі. Нават калі ўдасца распрадаць усю маёмасць фабрыкі, яе магазіны і кафэ, пустуючы загарадны аздараўленчы лагер, будзе праблематычна з усімі даўгамі разлічыцца. Напрыканцы лета на фабрыцы спыніліся апошнія швейныя лініі, самыя стойкія з 80 застаўшыхся швачак выканалі апошнія два заказы. Шэраг работніц яшчэ раней перайшлі працаваць на профільнае ААТ "Сцяг індустрыялізацыі", куды фабрыка перадала адну са сваіх ліній. Горад забярэ ў сваё падпарадкаванне і два "кімаўскія" інтэрнаты па 600 жылых месц у кожным. Суд даў адзін год на тое, каб пагасіць даўгі фабрыкі за кошт продажу яе маёмасці і абсталявання. Толькі за кошт гэтага паспрабуюць выплаціць даўгі па зарплаце ў суме 6 млрд. рублёў перад сваімі былымі работнікамі, што дагэтуль было праблематычна.

Полацкі раён

# Новы сімвал дружбы

■ Чэслаў Якубовіч.

**Ніводзін рэгіён Віцебшчыны не мае столькі доўгатэрміновых і плённых сувязей з замежнымі партнёрамі, як Полацкі раён.**

У адным з самых маладых гарадоў краіны Наваполацка цяпер ужо стала 19 гарадоў-пабрацімаў у васьмі краінах Еўропы і Азіі. Сёлета на чарговым Дні нафтаграда былі ва ўрачыстай абстаноўцы падпісаны такія дагаворы аб супрацоўніцтве і партнёрскіх сувязях з райцэнтрам Смілтэне з Латвіі і сербскім горадам Ніш. Сусед навапалачан старажытны Полацк ужо чвэрць стагоддзя вельмі плённа супрацоўнічае з нямецкім горадам-пабрацімам Фрыдрыхсхафен, што з федэральнай акругі Бодэнзее. З гэтай нагоды днямі на цэнтральнай алеі гарадскога праспекта Францыска Скарыны з'явілася сапраўдная металічная "Лаўка дружбы", стылізаваная пад старыну. Сродкі на яе выраб выдаткавалі нямецкія партнёры горада з насельніцтвам 59 тысяч чалавек, адкуль недалёка да Штутгарта і яшчэ бліжэй да швейцарскага Цюрыха. Важны заказ з задавальненнем выбарілі на мясцовым прадпрыемстве "Тэхналіт". Першымі на гэту незвычайную лаўку пад вялізным парасонам, які надзейна ўкрывае ад спякотнага сонца альбо ад моцных ападкаў, прыселі нямецкі обер-бургамістр Андрэас Бранд і полацкі мэр Мікалай Шаўчук. Яны абмяняліся сувенірамі і моцна паціснулі рукі, а таксама пасадзілі побач вечназялёнае дрэўца. Цікава, што гэты знак цесных адносін двух гарадоў з'явіўся паблізу яшчэ адной мясцовай славутасці – памятнага знака "Полацк – геаграфічны цэнтр Еўропы". Новая лаўка стала вельмі папулярнай сярод палачан і гасцей, тут людзі ахвотна фатаграфуюцца на памяць, прызначаюць спатканні і проста спыняюцца адпачыць.

Пастаўскі раён

# На ўрокі ў ваеннай форме

■ Кастусь Александровіч

**Атрымоўваць якасныя добрыя веды, загадзя вызначацца з будучым прафесійным выбарам – такія патрабаванні зараз выстаўляе перад моладдзю бурлівы час.**

Вось і ў Паставах з пачаткам новага навучальнага года штодзень у жылым мікрараёне ва ўсходняй частцы райцэнтра можна бачыць юнакоў і дзяўчат у новенькай ваеннай форме. Ды і навучальныя заняткі на ўрачыстай лінейцы ў мясцовай СШ № 4 сёлета адкрыліся пад мелодыі ваеннага аркестра Смаргонскай пагранічнай групы і ў прысутнасці групы ваенных афіцэраў. Па ініцыятыве Дзяржаўнага пагранічнага камітэта Беларусі ў гэтай школе 8 "А" стаў першым ваенна-патрыятычным класам. Для вучняў была пашыта спецыяльная форма, іх спецыяльна прыехаў павіншаваць з важнымі пераменамі ў жыцці камандзір Смаргонскай пагранічнай групы, палкоўнік Аляксандр Маркевіч і паабяцаў іх у далейшым усяляк падтрымліваць. У далейшым курс маладога байца для гэтых школьнікаў будуць весці два афіцэры аддзела пагранічнай службы "Пастаўы", адзін з якіх капітан пагранвойск скончыў, дарэчы, менавіта СШ № 4. Акрамя ваеннай і павышанай фізічнай падрыхтоўкі навучэнцаў ваеннага класа чакаюць экскурсіі на пагранзаставы, магчыма, потым шэраг выпускнікоў звяжуць сваё будучае жыццё з прафесіяй афіцэра і службай на дзяржаўнай граніцы. Для тых жа, каго вабяць мірныя прафесіі, на базе раённай гімназіі запрацаваў профільны педагагічны клас. Ва ўсіх астатніх сярэдніх школах раёна для вучняў старэйшых 10-х і 11-х класаў уведзі профільнае навучанне на базавым і павышаным узроўнях.

| Надвор'е ў Глыбокім | www. rp5ru | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Чацвер 17.09.15 | | | | Пятніца 18.09.15 | | | | Субота 19.09.15 | | | | Нядзеля 20.09.15 | | | | Пан. 21.09. | | |
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +15 | +24 | +20 | +18 | +19 | +21 | +16 | +13 | +14 | +18 | +14 | +11 | +12 | +17 | +12 | +10 | +11 | +15 |
| Ціск | 744 | 743 | 743 | 743 | 741 | 742 | 746 | 748 | 749 | 750 | 750 | 749 | 748 | 748 | 747 | 747 | 745 | 745 | 745 |
| Вецер м/сек | 5 Ю | 5 Ю | 8 Ю | 6 Ю | 5 Ю | 5 Ю | 7 З | 4 Ю-З | 3 З | 2 З | 3 З | 3 С-З | 3 С-З | 2 С-З | 1 С-З | 1 С | 0 ШТЛ | 3 З | 6 З |
| Вільготнасць | 81 | 79 | 54 | 68 | 83 | 86 | 67 | 80 | 96 | 95 | 64 | 81 | 98 | 94 | 54 | 91 | 94 | 95 | 63 |

# Аб самым надзённым

## МАРАЗМ РАСІЙСКІХ ЧЫНОЎНІКАЎ БАЛЮЧА ЎДАРЫЎ НЕ ТОЛЬКІ ПА АЙЧЫННАЙ ЭКАНОМІЦЫ, АЛЕ І ПА НАШЫХ СПАРТСМЕНАХ




■ Аляксандр Цішкевіч.

**Вось і напрыканцы лета хакейныя клубы КХЛ сталі ў масавым парадку выкідваць на вуліцу мацнейшых беларускіх ігракоў, большасць з якіх з'яўляюцца членамі зборнай Беларусі. Яшчэ летась гэта расійская ліга, якая прэтэндуе на званне адной з лепшых у свеце, у сваім статуце не лічыла іх і казахаў замежнымі легіянерамі.**

Да нядаўняга часу вельмі многія з беларусаў з яўнай сімпатыяй адносіліся да суседняй, нібыта "брацкай", Расіі. Мяркуючы па развіццю апошніх падзей і кепскай сітуацыі ў эканоміцы абедзвюх краін, ілюзіі наконт карысці нашага членства ў праслаўлутым Еўразійскім саюзе і міфічнай Саюзнай дзяржаве будуць развейвацца ў галовах большасці разумных суайчыннікаў. У сілу імперскай псіхалогіі да нашага народа адносіліся ў Крамлі як да людзей з перыферыі, з далёкіх ускраін, так і будуць адносіцца. Нездарма ж ужо два дзесяцігоддзі там нават афіцыйную назву нашай дзяржавы ігнаруюць і ўпарта называюць "Рэспубліку Беларусь" на свой капыл "Белоруссией".

Калі разабрацца, ніколі нашы адносіны з ўсходнім суседам парнёрскімі і нармальнымі не былі. Нагадаем, колькі ўжо было паміж намі розных "газавых, нафтавых, харчовых" і іншых падобных войнаў. У люты мароз Расія адключала нам падачу газу амаль на суткі, ды і сёлета перыядычна затрымлівае нашы прадукты харчавання на граніцы. Цывілізаваны свет не можа зразумець, дзеля чаго сотнямі тон знішчаюць на расійскіх прасторах на сметніках "шкодную" заходнюю ежу, альбо мяса ў хлорным растворы. Пры гэтым, сярод расіян жыве каля 24 мільёнаў фактычна зусім бедных людзей, і ніхто з чыноўнікаў не здагадаўся перадаць гэтыя прадукты ў дзіцячыя дамы, прытулкі для старых і інвалідаў, альбо прадаць беднякам па нізкіх цэнах, як "канфіскат".

Пра просты люд там яшчэ з царскіх часоў мала хто клапаціўся і гэтыя норавы заселі ў мазгах рускага чынавенства трывала. Вось і напрыканцы лета хакейныя клубы КХЛ сталі ў масавым парадку выкідваць на вуліцу мацнейшых беларускіх ігракоў, большасць з якіх з'яўляюцца членамі зборнай Беларусі. Яшчэ летась гэта расійская ліга, якая прэтэндуе на званне адной з лепшых у свеце, у сваім статуце не лічыла іх і казахаў замежнымі легіянерамі. Сёлета пачаўся новы сезон, згулялі першы тур і два высокапастаўленыя функцыянеры - расійскі міністр спорту В. Мутко і глава федэрацыі хакея РФ У. Траццяк паламалі рэгламент турніра і ў выніку больш 10 вядомых беларускіх спартсменаў сталі беспрацоўнымі.

Няхай сабе гэтыя хакеісты – людзі зусім не бедныя, яны не прападуць. Да таго ж клубы павінны будуць са сваіх бюджэтаў выплаціць ім няўстойкі за датэрміновае скасаванне кантрактаў. Гэтым майстрам, нават знакамітым братам Касціцыным цяжка будзе знайсці сабе працу ў іншых клубах, іх сем'і, дзеці, родныя апынуліся ля разбітага карыта. Усім відавочна, што мы сталі сведкамі чарговага дзікунства ў расійскім кіраўніцтве, з-за чаго церпяць ужо жыццёвыя каштоўнасці многія беларускія сем'і. Мы дажыліся да таго, што мінімальная зарплата ў суседзяў літоўцаў (350 еўра) напрыканцы лета стала ўжо большай, чым атрымоўваюць цяпер у сярэднім беларусы.

На апошні каляхакейны казус таксама даволі гнеўна адрэагавала кіраўніцтва Беларускай федэрацыі хакея. Яе старшыня Ігар Рачкоўскі ў адказ на яўна несяброўскія паводзіны расійскіх калег прыгразіў, што наш флагман, хакейнае мінскае "Дынама", можа пакінуць гэты газпрамаўскі праект. Магчыма, і правільна, замест удзелу ў КХЛ будуць заяўлены 3-4 беларускія каманды ў еўрапейскую Лігу чэмпіёнаў. Складаней будзе дапамагчы працаўладкавацца лепшым айчынным хакеістам, а вось гэты ўдар па беларускаму хакею краіна перажыве. Пакуль яна павінна забараніць вываз з Беларусі ў Расію перспектыўных маладых не толькі хакеістаў, але і прадстаўнікоў іншых відаў спорту.

Так да нашых людзей, вядомых у вялікім спорце, не павінны адносіцца маразматычныя рускія функцыянеры. І ўвогуле, чым на большай адлегласці мы ў далейшым будзем знаходзіцца ад "рускага мядзведзя", тым будзе лепш для Беларусі. Наш знакаміты футбольны трэнер Віктар Ганчарэнка проста ўцёк з Урала, калі стаў сведкам таго, якія "крымінальныя норавы" пануюць у расійскім спорце. Пакуль жа з падачы палітыкі "русского мира" "Крым наш" і знішчым "фашыстаў-бэндэраўцаў" ва Украіне астатнія беларусы атрымалі чарговы "чорны панядзелак", калі за адзін дзень курс долара вырас адразу на 871 рубель.

У далейшым можа прадоўжыцца падзенне сусветных цэн на нафту, а гэта пры пэўных фактарах (пра што сталі адкрыта гаварыць дасведчаныя людзі ў РФ) можа прывесці да краху расійскай эканомікі і яе фінансавай сістэмы (пры цане нафты 22,5 USD). І пакуль Крэмль не спыніць вайну ў Данбасе, краіны Захаду не адменяць уведзеныя санкцыі, ад чаго і беларускім экспарцёрам у Расію стала балюча перападаць. Сёлета да пачатку восені ў выніку дэвальвацыі нацвалюта аслабела амаль на 40 %. Адвесці Беларусь ад бездані становіцца ўсё цяжэй, мы бяднеем з кожным днём, нават напярэдадні выбараў і надыходу потым зімы. Праўда, з-за крызіса знялі ўсялякія абмежаванні на продаж алкаголю і адначасова параілі беларусам меней бегаць па абменніках, дзе наш зайчык пастаянна трасе, пачынаючы з канца 2008 года.

## Дзень за днём

**З-за падзення сусветных цэн на нафту ўслед за расійскім "аслабеў" і беларускі рубель. Нізкія цэны на нафту могуць пазбавіць Беларусь сёлета да 3 млрд. долараў экспартных даходаў. Беларускія заводы распрацавалі і зарэгістравалі 98 новых лякарстваў. Айчынныя банкі не сталі ўводзіць абмежаванні на продаж замежных валют. Нацбанк Беларусі разлічвае, што рост цэн да канца года не перавысіць 18 %. За выбарамі будуць назіраць больш 400 экспертаў місіі БДІПЧ АБСЕ. Сярэднія заробкі ў літоўцаў выраслі да 714 еўра, у беларусаў знізіліся да 342 еўра ў месяц. У Мінску і Гомелі знялі ранейшыя абмежаванні на продаж алкаголю.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Дзве каманды вучоных вядучых вышэйшых навучальных устаноў краіны распрацавалі вакцыну, якая дазволіць людзям не хварэць болей ніколі на грып, але патрэбны яшчэ клінічныя выпрабаванні.

**Карэя.** Пасля напружаных перамоў прадстаўнікі краіны і суседняй паўгалоднай КНДР дамовіліся ўрэгуляваць пагранічны канфлікт і не пачынаць вайну паміж сабой.

**Кітай.** Пасля абвалу больш чым на 8% фондавага рынку краіны на Шанхайскай біржы паніка ахапіла іншыя азіяцкія рынкі, пайшлі ўніз і еўрапейскія індэксы.

**Расія.** Урад РФ стаў штодзённа адсочваць паступленні валютнай выручкі і ціснуць на экспарцёраў, каб яны прадавалі свае валютныя рэзервы, але абвал рубля не прадухіліў.

**Грэцыя.** З-за расколу ў правячай партыі Сірыза прэм'ер-міністр папуліст, сацыяліст А. Цыпрыс падаў у адстаўку, у краіне пройдуць датэрміновыя парламенцкія выбары.

**Бельгія.** Глава ўрада Шарль Мішэль прапанаваў услед за Германіяй увесці кантроль на граніцах краін ЕС для прадухілення наплыву нелегальных мігрантаў і тэрарыстаў.

**Францыя.** Урад краіны дамовіўся з калегамі з Англіі стварыць сумесны кантрольны цэнтр на Ла-Маншы па барацьбе з масавай нелегальнай міграцыяй выхадцаў з Афрыкі.

**Германія.** Урад чакае, што сёлета з просьбамі аб атрыманні палітычнага прытулку ў краіне звернуцца 800 тысяч чалавек, рэгіёнам выдзеляць 0,5 мільярда еўра на гэту праблему.

**Украіна.** Тыя з Крамля, як заявіў прэм'ер-міністр А. Яцанюк, хто захапіў Крым, адправіў тэрарыстаў у Данецк і Луганск, будуць асуджаны міжнародным судом і гісторыяй.

**Эстонія.** Урад краіны вырашыў адгарадзіцца на граніцы ад агрэсіўнай Расіі суцэльным калючым дротам вышынёй 2,5 метры з мэтай прадухілення парушэнняў мяжы.

**Галандыя.** Міжнародны арбітражны суд у Гаазе абавязаў Расію выплаціць краіне кампенсацыю за затрыманне на месяц судна "Арктык Санрайз" і 30 членаў яго каманды.

**Расія.** Расійскі ваенны суд асудзіў украінскага рэжысёра А. Сянцову да 20 гадоў турмы, фігурантку гучнай справы аб крадзяжах у Міністэрстве абароны РФ вызвалілі з калоніі датэрмінова.

**ЗША.** Федэральная служба па кантролю за якасцю медыкаментаў дазволіла выпуск прэпарата "Флібансерын", таблеткі назвалі ў свеце "Віаграй" для жанчын.

**Украіна.** Вядомы журналіст В. Портнікаў заявіў, што і Беларусь будзе еўрапейскай краінай і пойдзе на Захад, бо агідны расійскі рэжым чакае неўзабаве непазбежны крах.

**Расія.** Дырэктар Інстытута дэмаграфіі і міграцыі Ю. Крупноў папярэдзіў, што да 2050 года колькасць насельніцтва РФ скароціцца да 63 мільёнаў чалавек з-за беднасці, п'янства рэгіёнаў.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Цяперашні крызіс і абвал на валютным рынку, як заявіў экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч, выкліканы глабальнымі ўнутранымі праблемамі несамастойнай эканомікі.

**Гомель.** На пляцоўках "Гомсельмаша" запасы непрададзенай прадукцыі дасягнулі гадавога выпуску зернеўборачных камбайнаў (183 машыны), склады цяпер ломяцца і ў іншых вытворцаў.

**Слонім.** Мясцоваму вінзаводу дазволілі выпуск самагону ў прамысловых аб'ёмах, але прадаваць яго можна толькі пад назвай "Першачок ад дзеда" – традыцыйны і лютвы.

**Мазыр.** У Прыпяцкім прагіне геолагі знайшлі новае даволі буйное Шацілкаўскае радовішча нафты, цяпер Беларусь здабывае ў год да 1,6 мільёна тон "чорнага золата".

**Гродна.** Міліцыя затрымала 16-гадовага мярзотніка-падлетка, які пасварыўся з маці і хацеў яе забіць, задушыў 5-гадовага брата, падпаліў кватэру і паспрабаваў знікнуць.

**Мінск**. Пасля выбараў на плыву, як заявіў глава прафсаюза РЭП Г. Фядыніч, застануцца лічаныя калектывы, такія як "Беларуськалій" і НПЗ, у многіх будуць вялікія праблемы.

**Столін.** Мясцовыя ўлады ўвялі для замежных грамадзян, найперш украінцаў, сезонны збор у суме 1,260 мільёна рублёў на збор журавін у заказніку "Альманскія балоты".

**Пінск.** Да рашэння суда мытня канфіскавала ў жыхара райцэнтра 15 залатых манет і 13 зліткаў золата, якія ён спрабаваў нелегальна ўвезці ў Беларусь цягніком з Польшчы.

**Чачэрск.** З сур'ёзнымі апёкамі цела даставілі ў рэанімацыю бальніцы 38-гадовую гараджанку, якую з-за рэўнасці аблілабензінам і падпаліла саперніца, на 3 гады старэйшая.

**Астравец.** Ля сцен Гальшанскага замка прайшоў фестываль сярэднявечнай культуры з рыцарскімі баямі, аўтэнтычнай музыкай мінулых эпох, коннаспартыўным шоў.

**Столін.** Едучы дамоў пасля адпачынку на рацэ Гарынь за рулём аўто без правоў 33-гадовая маці чатырох дзяцей перакулілася на дарозе, і VW-Passat прыціснуў яе насмерць.

**Капыль.** На вадасховішчы каля вёскі Смалічы патанулі 3-гадовы хлопчык і 16-гадовая дваюрадная сястра, якая паплыла яго ратаваць, калі вецер пагнаў углыб надзіманы матрац.

**Мінск.** Пад вечар у аквапарку Dreamland наглытаўся вады і ўтапіўся 10-гадовы хлопчык з Гродзенскай вобласці, які прыехаў у госці і прыйшоў сюды з сястрой адпачыць.

**Валожын.** Узгаранне трактара з прэс-падборшчыкам прывяло да пажару на полі з 10 гектарамі іржышча, пажарныя не далі агню перакінуцца на вёску Узбалоць.

**Мінск.** Беларусы асвісталі журналістаў расійскага прапагандысцкага тэлеканала НТВ, людзі крычалі падчас здымак сюжэта "Слава Украіне!" і "Крым – гэта Украіна!".

# Спрошчаную сістэму падаткаабкладання для іпэшнікаў плануюць урэзаць




■ news.tut.by

**У 2016 годзе можа істотна змяніцца спрошчаная сістэма падаткаабкладання. Гэта вынікае з праекта Закона «Аб унясенні зменаў і дапаўненняў у Падатковы кодэкс Рэспублікі Беларусь», размешчаным на сайце Мінфіна.**

У прыватнасці, прапануецца ўвесці забарону на ўжыванне «спрошчанай» юрыдычным асобам і іпэшнікам, якія аказваюць паслугі інтэрнэт-пляцовак і якія ажыццяўляюць розьнічны гандаль праз інтэрнэт-краму.

У той жа час законапраектам прадугледжваецца даць права прымяняць спрошчаную сістэму падаткаабкладання ўсім унітарным прадпрыемствам, створаным рэспубліканскімі дзяржаўна-грамадскімі аб'яднаннямі.

Зменяцца і крытэрыі, якім трэба адпавядаць для працы па «спрошчанай». У праекце закона аб унясенні змяненняў у Падатковы кодэкс прапануецца знізіць з 13,7 млрд рублёў да 1,5 млрд рублёў гранічны памер гадавой валавай выручкі для індывідуальных прадпрымальнікаў, пры якім іпэшнікі абавязаны спыніць прымяненне спрошчанай сістэмы падаткаабкладання і перайсці на агульнаўстаноўлены парадак падаткаабкладання.

Акрамя таго, пры «спрошчанай» плануецца павысіць стаўку падатку да 16% у дачыненні да даходаў у выглядзе сум бязвыплатна атрыманых грашовых сродкаў, кошту бязвыплатна атрыманых тавараў (работ, паслуг), маёмасных правоў.

Таксама прапануецца знізіць з 1,5 тыс. да 1 тыс. Кв. м крытэр для мэт выплаты падатку на нерухомасць суб'ектамі прадпрымальніцтва, якія карыстаюцца ССП.

# Мінімальны заробак за жнівень індэксуецца на 5,1%

■ БелТА

У Беларусі месячны мінімальны заробак за жнівень індэксуецца, як і ў папярэднім месяцы, на 5,1%, бо індэкс спажывецкіх цэн за жнівень не перавысіў пяціпрацэнтны парог да месяца яе папярэдняй індэксацыі (ліпень 2015 г.).

Пра гэта паведамілі ў Міністэрстве працы і сацыяльнай абароны.

Такім чынам, памер МЗП у жнўіні гэтага года, як і ў ліпені, складае Br2 млн 180 тыс. 126 рублёў. Нагадаем, з 1 студзеня гэтага года месячная мінімальная заработная плата была ўстаноўлена ўрадам у памеры Br2 млн 100 тыс. 100.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З-за недахопу вучняў у вобласці прыйшлося закрыць 10 малакамплектных школ і яшчэ 11 рэарганізаваць у дзіцячыя сады, засталося толькі 8 школ, дзе меней 25 дзяцей.

**Полацк.** Пасля паўгадавой праверкі арыштавалі дырэктара вінзавода, які не адпрацаваў тут і двух гадоў, затрымалі і яго намеснік, распачата адразу 10 крымінальных спраў.

**Віцебск.** Эканамічны суд вобласці прызнаў банкрутам ААТ "КІМ", утвораную ў 1931 годзе панчошна-трыкатажную фабрыку з 2 інтэрнатамі ліквідуюць да верасня 2016 года.

**Верхнядзвінск.** Мясцовы масласырзавод акрамя рэгіёнаў Расіі пачаў продаж сухой падсырнай і дэмінералізаванай на 50 і 90 % сыраваткі ва Узбекістан і Кыргыстан.

**Наваполацк.** Днём у выніку разгерметызацыі ўчастка вытворчай лініі ў будынку халадзільнага аддзялення выцекла 300 кілаграмаў аміяку, уцечку ліквідавалі, ніхто не пацярпеў.

**Орша.** Больш чым на 9 мільёнаў долараў урад Беларусі павялічыў статутны фонд мясцовага льнокамбіната, сродкі пойдуць на закуп абсталявання, аплату будаўнічамантажных работ.

**Браслаў.** У разгар жніва 8 гаспадарак азёрнага краю не разлічыліся з людзьмі за працу ў чэрвені, праўда, удалося пагасіць даўгі па дзіцячых дапамогах і за здадзенае малако.

**Ліёзна.** Па ініцыятыве главы раёна Івана Лаўрыновіча пачаўся конкурс на лепшы ландшафтны дызайн рулонаў з саломы ўздоўж аўтадарог, будзе да 50 кампазіцый.

**Глыбокае.** У сельгасфіліяле "Галубічы" мясцовага мясакамбіната стварылі другую ў вобласці ферму па вырошчванню высокапрадукцыйнай герэфордскай пароды жывёл.

**Паставы.** У адной з кватэр раённага цэнтра 23-гадовая беспрацоўная жанчына парадзіла дзяўчынку і неўзабаве закалола яе нажніцамі, мярзотніцы пагражае да 5 гадоў турмы.

**Лепель.** Мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Павел пабываў у Бярэзінскім біясферным запаведніку на сустрэчы з эколагамі краіны, даў згоду на пабудову там часоўні.

**Браслаў.** Спецыялісты мясцовага філіяла ДРБУ-141 разам з дарожнікамі з іншых куткоў вобласці пачалі будаваць дарогу да ўзводзімага завода металічнай бляхі ў Міёрскім раёне.

**Докшыцы.** Пры падтрымцы хрысціянскай арганізацыі "Карытас" група школьнікаў з раённага цэнтра пабывала ў 9-дзённай паездцы ў Польшчы, наведала горад Сандамір на Вісле.

**Ушачы.** За паўторную язду на падпітку суд пакараў маладога жыхара раённага цэнтра 3 месяцамі арышту, штрафам 66 мільёнаў рублёў, ён пазбавіўся правоў і аўтамабіля.

**Глыбокае.** У будынку былога АВІРа ля царквы адкрыўся офіс урача агульнай практыкі, ён стаў абслугоўваць чатыры ўрачэбныя ўчасткі, там пражывае шмат пажылых людзей.

*Служба інфармацыі "ВГ"*.

# ЦВК зарэгістраваў чатырох кандыдатаў у прэзідэнты


Сяргей Гайдукевіч


Таццяна Караткевіч


Аляксандр Лукашэнка


Мікалай Улаховіч

## Тэле- і радыёвыступы кандыдатаў у прэзідэнты: хто калі

15-18 і 22-25 верасня, 19:30, «Беларусь-1».

**Кандыдатам выдатаваны час на тэле- і радыёвыступы, даты былі разыграныя ў выпадковым парадку.**

Усе тэлевыступы будуць выходзіць у эфір на канале «Беларусь 1» у 19:30 — пры чым дазваляецца як выдаваць выступ у запісе, так і выступаць нажывую. Максімальны час выступу — 30 хвілін. Кандыдаты могуць адмовіцца ад выступаў.

**Графік тэлевыступаў:**

**Сяргей Гайдукевіч:** 15 і 25 верасня.

**Аляксандр Лукашэнка:** 16 і 23 верасня.

**Таццяна Караткевіч:** 17 і 24 верасня.

**Мікалай Улаховіч:** 18 і 22 верасня.

Таксама кандыдаты двойчы выступяць на Першым нацыянальным канале беларускага радыё, але ў розны час (ды заўсёды — да 7 раніцы). Напрыклад, Караткевіч выступіць 25 верасня (6:10-6:40) і 2 кастрычніка (6:40-7:10).

Дакладны графік і іншыя дэталі выступаў пазней будуць апублікаваныя на сайце Цэнтрвыбаркаму.

## Таццяне Караткевіч уручылі пасведчанне кандыдата ў прэзідэнты №1

**Актывістка кампаніі "Гавары праўду" Таццяна Караткевіч зарэгістравана кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Такое рашэнне прынята 10 верасня Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў.**

Як адзначыў сакратар ЦВК Мікалай Лазавік, у падтрымку Караткевіч сабрана 105 тыс. 278 подпісаў. Паводле яго слоў, пададзеныя дакументы поўнасцю адпавядаюць заканадаўству, перашкод для рэгістрацыі Караткевіч не выяўлена.

Таццяне Караткевіч уручылі пасведчанне кандыдата ў прэзідэнты №1, бо яна першая падавала дакументы на рэгістрацыю.

*"Я сёння з`яўляюся адзінай дэмакратычнай альтэрнатывай, якая прадстаўляе людзей, што жадаюць мірных перамен,* — заявіла Караткевіч на пасяджэнні. — *Беларусі патрэбны новы прэзідэнт. За апошнія пяць гадоў жыццё стала горшым. Лукашэнка не выконвае свае абяцанні. Прычына — застой, які прывёў да эканамічнага крызісу. Даць Лукашэнку яшчэ пяць гадоў прэзідэнцтва — зрабіць яшчэ горш. Лукашэнка стаміўся, яму трэба даць адпачыць. Так будзе лепш для ўсіх".*

Таццяна Караткевіч нарадзілася ў 1977 годзе, мінчанка. Выпускніца факультэта псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя Максіма Танка. Магістр псіхалогіі.

Працавала псіхолагам у вучылішчы і ўніверсітэце. Узначальвала аддзяленне адаптацыі і рэабілітацыі ў тэрытарыяльным цэнтры сацыяльнай абароны насельніцтва Ленінскага раёна Мінска. Цяпер — дырэктар сацыяльнай установы "Сямейная пляцоўка", якая аказвае дапамогу людзям, што апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.

На прэзідэнцкіх выбарах 2010 года была давераная асобай кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева, у 2012-м — балаціравалася ў Палату прадстаўнікоў па Кальварыйскай выбарчай акрузе Мінска. Член Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада). Апошнія пяць гадоў актыўна працуе ў грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду".

Падчас цяперашняй кампаніі прасоўвае ідэю мірных перамен кааліцыі "Народны рэферэндум", якая аб`ядноўвае грамадзянскую кампанію "Гавары праўду", Партыю БНФ, Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Грамада) і рух "За Свабоду". Галоўная ідэя "Народнага рэферэндуму" — вынесці на ўсенароднае абмеркаванне шэсць ключавых пытанняў аб развіцці беларускай дзяржавы і грамадства.

*"Маё рашэнне ўдзельнічаць у гэтай прэзідэнцкай кампаніі абумоўлена тым, што я даваряю ідэі "Народнага рэферэндуму", над якой мы працавалі больш за два гады,* — сказала Караткевіч у маі гэтага года падчас анлайн-канферэнцыі на сайце БелаПАН. — *Акрамя таго, для мяне вельмі важна прадстаўляць інтарэсы тых 120 тысяч беларусаў, якія паставілі свае подпісы пад ідэяй "Народнага рэферэндуму", і тых 40% выбаршчыкаў, а гэта больш за тры мільёны чалавек, якія лічаць, што парламент павінен быў прызначыць народны рэферэндум. І я ўпэўнена, што менавіта ідэя мірных перамен "Народнага рэферэндуму" зможа аб`яднаць беларусаў і вывесці краіну з крызісу".*

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

## Будаўніцтва металургічнага завода ў Мёрскім раёне ўваходзіць у актыўную фазу

**Будаўніцтва металургічнага завода ў Мёрскім раёне ўваходзіць у актыўную фазу, у верасні будзе абраны генеральны падрадчык прац, паведаміў карэспандэнту БелТА тэхнічны дырэктар, які займаецца рэалізацыяй праекта ТАА "ММПЗ-груп" Уладзімір Цішчанка.**

Дадзены інвестыцыйны праект з'яўляецца адным з найбуйнейшых, якія рэалізуюцца ў Віцебскай вобласці на сённяшні дзень. "Працяглы і шматпланавы падрыхтоўчы этап ужо ззаду. Пад завод адведзена крыху больш за 40 га зямлі прыкладна ў 2,5 км ад мёрскай чыгуначнай станцыі. На дадзены момант завяршаецца пракладка пад'язной дарогі, земляныя работы па вертыкальнай планоўцы, забіваюцца палі для праверкі грунта. Першапачатковыя будаўнічыя работы мясцовымі арганізацыямі і прадпрыемствамі, цяпер на аб'екце занята каля 45 адзінак рознай тэхнікі і машын. А ў наступным месяцы мы абяром генпадрадчыка будаўніцтва. Гэта маштабны інавацыйны і імпартазамяшчальны праект, які рэалізуецца паэтапна, паралельна з праектаваннем", - растлумачыў Уладзімір Цішчанка.

Ён дадаў, што адначасова вядзецца ўзвядзенне жылля для будучых працаўнікоў завода, спецыялістаў. Гатоўнасць першага васьмікватэрнага дома складае 70%, закладзены падмуркі яшчэ двух. Усяго на першапачатковым этапе плануецца пабудаваць 6 жылых дамоў.

Спецыялізацыя новага металургічнага завода накіравана на выпуск лістоў белай бляхі, якая шырока ўжываецца ў шматлікіх прамысловых галінах: вытворчасць пакавання для кансерваваў прамысловасці, аэразоляў, лакафарбавых вырабаў і г.д. Пакуль дадзеная сыравіна цалкам закупляецца за мяжой. Гэты інавацыйны праект дасць магчымасць не толькі адысці ад імпарту белай бляхі, але і дазволіць экспартаваць яе на іншыя рынкі (гадавое запатрабаванне краіны ў металапрадукцыі складае 30 тыс. т, а запланаваная прадукцыйнасць заводу – 150 тыс. т, і праз год пасля запуску кампанія разлічвае павялічыць магутнасць да 240 тыс. т). Якасць выпушчанай прадукцыі будзе адпавядаць патрабаваным еўрапейскім стандартам.

Канец будаўніцтва прызначаны на 2016 год, яшчэ два гады адводзіцца на пусканаладжвальныя працы і выхад на праектную магутнасць. **На заводзе будзе створана 500 працоўных месцаў.** Агульны кошт інвестыцыйнага праекта перавышае 200 млн еўра. Генпадрадчыкам праектавання з'яўляецца літоўская інжынірынгавая кампанія MANfuLA, пастаўшчык абсталявання – адзін з вядучых вытворцаў металургічнага і трубапракатнага абсталявання ў свеце кампанія SMS Group (Нямеччына).

*Кацярына Князева - БЕЛТА*



# Усе спрэчныя пытанні вырашаюцца на карысць простага рыбалова-аматара

**Пытанне вядзення рыбалоўнай гаспадаркі на арандаваных вадаёмах раёна перыядычна падымаецца ў раённых сродках масавай інфармацыі па ініцыятыве рыбаловаў-аматараў.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Дачыненні паміж рыбаловамі і арандатарамі вадаёмаў далёкія ад сяброўскіх, з-за збірання платы за рыбалоўства, якая ўстаноўленая арандатарамі сетак, рэгулярна ўзнікаюць спрэчныя пытанні, канфлікты. Вось і ў чарговым нумары газеты «Вольнае Глыбокае» Алесь Гай падняў пытанне аб тым, што на арандаваных азёрах Вялікая Пліса і Чачалёўскае пастаянна стаяць сеткі і немагчыма закінуць вуду. Глыбоцкая міжраённая інспекцыя сваю пазіцыю наконт арандаваных вадаёмаў выказвала не раз. Вось і ў чарговы раз тлумачым, што Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (Глыбоцкая міжраённая інспекцыя) перадачай вадаёмаў у арэнду для вядзення прамысловай лоўлі і платнага аматарскага рыбалоўства не займаецца. Згодна Правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь рыбалоўныя ўгоддзі прадастаўляюцца ў арэнду на падставе рашэнняў абласных выканаўчых камітэтаў, узгодненых з Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання і тэрытарыяльнымі органамі Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Арандатары вадаёмаў абавязаны няўхільна выконваць дагаворы арэнды вадаёмаў, у тым ліку, забяспечыць вылаў даведзеных Міністэрствам сельскай гаспадаркі і харчавання квотаў на вылаў рыбы. Таму на арандаваных вадаёмах часта можна сустрэць устаноўленыя арандатарамі сеткі, якія яны ўсталёўваюць згодна графіка, у пэўныя гадзіны і дні, з запісам у журналах ўліку (тоневы журнал), колькасць і даўжыня сетак вызначаецца рыбаводнабіялагічным абгрунтаваннем, распрацаваным навуковымі інстытутамі, ўсе сеткі прамаркіраваныя міжраённай інспекцыяй і за любую немаркіраваную сетку арандатары нясуць адказнасць (ад 100 да 500 б.в.). За невыкананне даведзеных квот вылаву рыбы арандатары нясуць адміністратыўную адказнасць, якая складае ад 100 да 500 базавых велічынь. Арандатар возера Чачалі ў 2015 годзе ўжо прыцягнуты да адказнасці. Вылаўленая арандатарамі рыба, як правіла, выкарыстоўваецца для патрэб арандатараў, рэалізуецца работнікам арганізацыі, для патрэб сталовых. Колькасць рыбы, што вылаўліваецца ў раёне прамысловым спосабам, нязначная, а працэс лоўлі – стратны. Толькі ў 2015 годзе ад арэнды вадаёмаў з-за панесеных страт адмовіліся два арандатары. Гэта Глыбоцкая ПМС, ТАА «Старт» Мінскага раёна.

Возера Вялікае Пліса арандуе ПС ЗАТ «Трэст Прамбуд», якія будуюць на беразе возера вялізны санаторый, што дае магчымасць павелічэння колькасці працоўных месцаў у раёне, наладзіць адпачынак і прафілактычнае лячэнне грамадзян. Арандатар возера толькі за 2014-2015 год ўклаў значныя сродкі ў зарыбленне вадаёма, на восень бягучага года плануецца зарыбленне возера судаком, шчупаком, ёсць праблема з набыццём пасадкавага матэрыялу судака, рыбгасы краіны практычна не займаюцца яго развядзеннем. Возера Вялікая Пліса вельмі значнае па сваіх памерах і сеткі, што ўсталёўваюцца арандатарамі, не могуць яго цалкам перакрыць, а таму месцаў для аматарскай рыбалкі звышдастаткова, да таго ж плату за рыбалку арандатары не бяруць.

У цяперашні час па ініцыятыве Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь разглядаецца пытанне аб поўнай адмове ад прамысловай лоўлі рыбы сеткамі, прапануецца пакінуць толькі арганізацыю платнага аматарскага рыбалоўства, павялічыць частату зарыблення вадаёмаў рознымі відамі рыбы.



Супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі ажыццяўляюць пастаянны кантроль за выкананнем правілаў рыбалоўства арандатарамі і за ўсе допушчаныя парушэнні прыцягваюць вінаватых арандатараў да адказнасці. У цяперашні час рыхтуюцца прапановы ў Глыбоцкі раённы выканаўчы камітэт на скасаванне дагавораў арэнды за допушчаныя парушэнні і невыкананне ўмоў дагавора з двума арандатарамі вадаёмаў.

За 2015 год інспектарамі міжраённай інспекцыі затрымана больш за 80 грамадзян, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы рознымі забароненымі прыладамі рыбалоўства, распачата сем крымінальных спраў, у даход дзяржавы спагнана больш за 250 млн. рублёў, канфіскаваныя лодкі, аўтамабілі і іншая маёмасць парушальнікаў. Глыбоцкая міжраённая інспекцыя заўсёды актыўна працуе па спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства, інспектары заўсёды рэагуюць на ўсе паведамленні грамадзян аб браканьерстве, калі вядома яны своечасовыя, а не тыднёвай даўнасці, усе спрэчныя пытанні, як правіла, вырашаюцца на карысць простага рыбалова-аматара.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя паведамляе аб усіх арандаваных вадаёмах Глыбоцкага раёна, на якіх арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, і на якія неабходна набываць пуцёўкі.

**На тэрыторыі Глыбоцкага раёна платнае аматарскае рыбалоўства арганізавана на наступных вадаёмах:**

Карпінскае, Бярозаўскае – арандатар фермерская гаспадарка «Карпікі», возера Крывое – арандатар ТАА «Сэрвік», возера Чачалі – арандатар ПП «Аграбізнаскансалт», возера Свядава – арандатар СФГ «Свідава», возера Белае – арандатар СФГ «Бабруйшчынскае», возера Падаута – арандатар СФГ «Падауты», дзейнасць апошняй Глыбоцкай міжраённай інспекцыяй прыпыненая.

Па пытаннях арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства Вы можаце звярнуцца да супрацоўнікаў міжраённай інспекцыі па названых ніжэй тэлефонах.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыія аховы жывёльнага і расліннага свету выказвае падзяку грамадзянам за дапамогу ў захаванні нашых прыродных багаццяў і спадзяецца, што і ў далейшым паміж інспектарамі і рыбаловамі-аматарамі будуць падтрымлівацца дзелавыя і даверлівыя адносіны.

**Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 2-86-70 «тэлефон даверу», маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

# Дровы танней, чым запалкі

## Пры самастойнай нарыхтоўцы цана дроў на ўвесь ацяпляльны сезон можа апынуцца ніжэйшай, чым кошт запалак, неабходных для іх распальвання

**Надвор'е ўсё радзей радуе нас цёплымі дзянькамі. А таму самы час задумацца аб падрыхтоўцы да ацяпляльнага сезона. Нягледзячы на масавую газіфікацыю, патрэба ў дрывах з году ў год толькі расце.**

■ **А.Г. Абрамчык,** *старэйшы дзяржаўны інспектар Глыбоцкай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Не спяшаюцца разбіраць печкі і жыхары сельскай мясцовасці. З прыкладна шасці мільёнаў кубаметраў "дроўнай" драўніны, якая штогод нарыхтоўваецца лясгасамі Беларусі, не менш за чвэрць спажываецца насельніцтвам. Нарыхтоўка дроў на зіму – працэс, які адкрывае шырокае поле дзейнасці для тых, хто ўмее і хоча лічыць грошы.

Дровы танней запалак? Указ Прэзідэнта №6 ад 05.01.2011 года "Аб некаторых пытаннях рэгулявання дзейнасці ў сферы лясной гаспадаркі" дазволіў як насельніцтву, так і прадпрыемствам нарыхтоўваць дровы на захламленых, ветравальных, бураломных участках лесу практычна бясплатна. Усё, што патрабуецца для саманарыхтоўкі дроў, – звярнуцца ў лясніцтва і падабраць для сябе найбольш зручны ўчастак лесу, які знаходзіцца бліжэй да хаты.

Для ацяплення сярэднестатыстычнага дома на працягу ўсяго ацяпляльнага сезона дастаткова 10 "кубоў" (а кожны жадаючы можа нарыхтаваць да 50 кубаметраў дроўнай драўніны – больш чым дастаткова). Папрацаваўшы ў лесе, можна жыць у цяпле ўсю зіму. Калі перавесці гэта ў жарт, то запалкі для штодзённага распальвання печак абыдуцца даражэй дроў.

Зрэшты, для тых, хто па нейкіх прычынах не ў стане нарыхтаваць дровы сам, падобныя паслугі аказваюць работнікі лясгасаў. Леснікі могуць самі нарыхтаваць дровы, пагрузіць іх на транспарт, прывезці да падворка заказчыка і там выгрузіць. Толькі ў гэтым выпадку "цёплае" шчасце будзе азмрочана выдаткамі: кожны "кубік" дроў абыйдзецца прыкладна ў 80 тысяч рублёў.

Калі вы вырашылі нарыхтоўваць дровы самастойна, звярніцеся ў лясніцтва па месцы пражывання з пісьмовай заявай (згодна з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №200) з указаннем неабходнай колькасці драўніны. Пасля прадстаўлення квітанцыі аб аплаце за дровы ў касе лясніцтва выдаецца ордэр на нарыхтоўку дроў на корані. Нарыхтаваная драўніна складуецца ў штабелі для наступнага абмеру работнікам лясніцтва. Пасля таго, як будзе праведзена ўборка месца высечкі ад смецця, пасечаных рэштак і захламленасці, чалавек атрымлівае дазвол на вывазку дроў.

Пры нарыхтоўцы дроў па ордэры неабходна звяртаць увагу на тэрміны вывазкі нарыхтаванай драўніны. Так, 7 верасня 2015 года каля 15 гадзін 30 хвілін грамадзянін Р. транспартаваў драўніну па ордэры на дробны водпуск драўніны на пні, тэрмін вывазкі драўніны ў якім скончыўся. У дачыненні да гэтага грамадзяніна складзены адміністрацыйны пратакол, пакаранне за такое парушэнне складае да трыццаці базавых велічынь.

Калі вы пасля нарыхтоўкі драўніны не паспяваеце ў названыя тэрміны вывезці нарыхтаваную драўніну, вам неабходна звярнуцца ў лясгас для падаўжэння тэрмінаў вывазкі.

**Аб усіх праваапарушэннях вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі: 8-02156-28670, маб.: 897-23-02,890-55-28,645-66-78,249-45-49 (МТС).**





## Віншаванкі

*Наталлю Уладзіміраўну Нікіфаровіч*

**Віншуем з 60-годдзем!**

Храни тебя бог от житейских невзгод,
От тяжких болезней, душевных тревог.
Пусть будет побольше безоблачных дней,
Согретых любовью родных и друзей.
Пусть в твоём сердце молодость не гаснет,
А вместе с ней – любовь и красота,
Пусть вечным гостем в доме будут
Счастье, покой, уют, друзья и доброта.
Будь в настроении весёлом,
И не считай свои года,
Пусть радость, счастье и здоровье
Тебе сопутствуют всегда.



*Сын*

# Полацкі музей кнігадрукавання адзначыў дваццаціпяцігадовы юбілей

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

**Музей быў адкрыты 8 верасня 1990 года падчас святкавання 500-годдзя з дня нараджэння беларускага першадрукара Францыска Скарыны.**



З нагоды юбілею 10 верасня гэтага года ў канферэнц-зале музея прайшоў Круглы стол «Кніжная спадчына ў музейным адлюстраванні».

У ім прынялі ўдзел супрацоўнікі музеяў і бібліятэк з Полацка, Віцебска, Мінска, Магілёва, былі таксама прадстаўнікі Расіі.

Навукоўцы абмеркавалі пытанні, звязаныя з кніжнай тэматыкай.

Перад адкрыццём Круглага стала адбылася прэзентацыя выставы сапраўдных выданняў Францыска Скарыны, якія захоўваюцца ў фондах Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Гэта кнігі «Эклезіяст» і «Кнігі Царстваў». Як адзначыў намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Алесь Суша, Полацк з'яўляецца першым горадам, у які гэтыя кнігі патрапілі з Мінска. Выстава будзе працягвацца да канца верасня.

Другая выстава прыехала ў Полацк з Расіі, з Вялікага Ноўгарада. Гэта выстава будзе доўжыцца верасень і кастрычнік. На ёй прадстаўлены каштоўныя выданні XVI-XIX стагоддзяў, звязаныя з беларускімі землямі.

У гэтым годзе адзначаецца таксама 525-годдзе з дня нараджэння Францішка Скарыны, а праз два гады будзе адзначацца 500-гадовы юбілей выхаду першай беларускай кнігі – скарынавай «Бібліі».

# Крывавая раніца ў Беразвеччы

■ **Уладзімір Скрабатун**

– Гэта – "Вольнае Глыбокае"? – чую жаночы голас у тэлефоннай трубцы. Прадставілася Варварай К_іч.

– Так.

– Вось хто б апублікаваў... Жыву я ў мікрараёне МКК. Сёння, 11 верасня, я была сведкай жахлівага відовішча. Паехала з дзіцяці ў паліклініку. Насупраць паліклінікі – аўтобусны павільён і прыватная крама. Ляжаць побач тры сабакі. Я вырашыла пашкадаваць галодных сабак, ды зайшла ў краму купіць сардэлек, пакарміць іх, набыла шэсць сардэлек. Выходжу з крамы – сабак няма! Чую крыкі школьнікаў – у некаторых былі слёзы на вачах, яны плакалі – Уцякай, уцякай! Сабак пераследаваў мужчына са зброяй. Адзін сабака – кульгаў. Чалавек следаваў за імі ў бок возера Мушкат, на ім не было ніякай ўніформы, проста – мужчына са зброяй. Што за зброя – я не разбіраюся. Карабін? Вінтоўка? Ружжо? Гэта была зброя – з даўгім ствалом.

Сам працэс адстрэлу я не бачыла, бо была ў краме. Але ж гэта бачылі дзясяткі людзей ля паліклінікі і дзеці, якія чакалі аўтобуса да школы. Фатаграфавалі, здымалі відэа... Усё гэта трапіць у інтэрнет, на мабільнікі, будуць глядзець відэа на перапынках у школе...

Які жах, які шок! У жылым мікрараёне, сярод белага дня, а 11-й гадзіне, на вачах шматлюднай масы, на вачах дзяцей, адстрэльваюць сабак! Як можна тады развважаць аб чалавечнасці, спагадзе! Як можна гэтыя якасці прывіць нашым дзецям!? Яны ж бачаць, насамрэч, іншую рэчаіснасць!

Я патэлефанавала ў міліцыю, паведаміла аб гэтым жахлівым відовішчы.

– Гэта ЖКГ адстрэльвае бадзяжных сабак. Мае права, – пачула голас адтуль.

– Дык на вачах дзяцей!

– Вы хочаце, каб Вашыя паказанні былі занатаваныя?

– Так!

Прыйшоў участковы і мае свсдчанні запісаў. Аднак, я хачу, каб і жыхары горада ведалі, якія жахлівыя выпадкі здараюцца ў нашым горадзе!

Мы вырашылі патэлефанаваць і папрасіць пракаментаваць выпадак у Беразвеччы Аляксея Віктаравіча Протаса, начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.

– Так, яны маюць права! Бадзячыя сабакі наносяць шмат шкоды, могуць пакусаць чалавека, дзіцяці, яны могуць быць распаўсюднікамі шаленства... Але тут, перадусім, пытанне – маральнасці! Нельга рабіць такое прылюдна! На вачах дзяцей! Лепей займацца гэтым ўночы, калі людзі спяць, у кароткія летнія ночы...

Між тым, адзначу: тэрыторыя населеных пунктаў, выведзеная з падпарадкавання нашай інспекцыі, у населеных пунктах, гэта – кампетэнцыя раённай экалогіі. У іх – усе нарматыўныя акты: як, і калі, у які час адстрэльваць бадзяжных сабак – там ведаюць.

Аднак, заўважу: любы паляўнічы, у тым ліку і я, у паляўнічы сезон, калі, напрыклад, адкрытае паляванне на качак, мае права па дарозе на паляванне, за 200 метраў ад мяжы населенага пункта, застрэліць бадзяжнага сабаку, калі на ім няма ашыйніка. Такі сабака падпадае пад катэгорыю шкодных жывёлаў, як ліcіца, ці здзічэлы сабака.

Але, ізноў, падкрэсліваю, тут – пытанне маральнасці. Нельга страляць сабак прылюдна, тым больш, на вачах дзяцей!



